# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 49 (1032) ГОД XX 7 СНЕЖНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.




*Парашкоўня малака ў Бельску.* *Фота аўтара.*

# VII З'ЕЗД ПАРТ

# І ПОМНІКІ ЎЗНЯЛІ МЫ РУКАТВОР-НЫЯ ...

Кожны чалавек, калі жыве справядліва і сумленна працуе, хоча ўбачыць вынікі сваіх намаганняў. Што тады паявілася на карце цяперашняга Беластоцкага ваяводства ад нашай супольнай працы на працягу апошніх пяці гадоў?

Найперш прыпомнім, што за гэты час насельніцтва цяперашняй Беласточчыны павялічылася больш чым на 17 тысяч чалавек. Нібы гэта не так ужо і многа, бо на адзін квадратны кіламетр прыпадае нас у сярэднім ледзь 61-62 чалавекі (для параўнання: у Беластоку на адным квадратным кіламетры жыве звыш 200 чалавек), аднак каб увесь гэты людскі прырост сабраць недзе разам, дык не хапіла б яму для пасялення такога горада, як Бельск Падляшскі, які пасля Беластока з'яўляецца ў нас самым буйным гарадскім цэнтрам.

Калі ўжо ведаем, колькі нас ёсць, дык варта ведаць, чаго мы ўсе разам дасягнулі. На аснове матэрыялаў, якія паказалі мне ў Ваяводскай камісіі па гаспадарчаму планаванню, я падлічыў, што ў гадах 1971-1975 (да кастрычніка) у межах актуальнага Беластоцкага ваяводства паявілася 205 буйнейшых новабудоўляў самага рознага характару і прызначэння. Прызнаюся, я не спадзяваўся, што іх аж так многа.

Дзе ж гэтыя новыя будоўлі? Якога яны характару?

Год 1971, 40 новых будоўляў, а сярод іх:

— разбудаваліся станкабудаўнічыя фабрыкі: „Ухвыты" ў Беластоку і сельскагаспадарчых машын — у Чорнай Беластоцкай;

— на Гайнаўскім дрэваапрацоўчым камбінаце ўзнік новы цэх, а фактычна зусім новая фабрыка па вытворчасці стружкавых пліт;

— у Беластоку распачала прадукцыю фабрыка вопату;

— гарады Гайнаўка і Саколка атрымалі новыя механічныя пякарні;

— 2 500 сем'яў пасяліліся ў новых памяшканнях;

— прыбыло 1 200 новых месц у хлявах і аборах для жывёлы.

Год 1972, новых будоўляў, буйнейшых, вядома, 35. А вось для прыкладу:

— Беластоцкае прадпрыемства па вытворчасці зборных жалезабетонных канструкцый для жыллёвага і прамысловага будаўніцтва;

— фабрыка будаўнічай сталяркі ў Саколцы;

— гарбарня ў Крынках (разбудова);

— спіртны завод у Беластоку;

— Беластоцкая друкарня (дзе зараз, між іншым, друкуюць таксама і нашу „Ніву");

— гарадская ачышчальня ў Гайнаўцы;

— гасцініца „Туркус" у Беластоку;

— гаспода ў Чаромсе;

— прадпрыемства каапэратыва „Бэтэска" па вытворчасці пластмасавых вырабаў у Беластоку.

Год 1973. Сярод 39 новых будоўляў варта адзначыць:

— газаправод з Ваўкавыска ў Беласток, дзякуючы якому сталіца нашага ваяводства ўжо колькі часу карыстаецца высакаякасным зямным савецкім газам, якога ўдосталь хапае ў любую пару дня і ночы;

— на Гайнаўскай хімічнай фабрыцы збудаваны новыя поўнасцю аўтаматызаваныя ўстаноўкі для сухога перагону дрэва;

— у Гарадку разбудавалася фабрыка трыкатажных вырабаў „Каро";

— Сямяцічы ўрэшце атрымалі прасторную бальніцу, якая вельмі добра служыць насельніцтву навакольных гмін;

— у Беластоку на вуліцы Падлеснай паявіўся прыгожы ансамбль будынкаў, у якіх размясціліся мастацкія музычныя школы, між іншым, і філіял Варшаўскага вышэйшага тэатральнага вучылішча, дзе будуць здабываць прафесію акцёры лялечных тэатраў;

— амаль 3000 сем'яў пасялілася ў новых кватэрах.

Год 1974 асабліва багаты новымі будоўлямі, бо налічыў я іх амаль 50, а сярод іх:

— Сакольскі філіял Беластоцкай фабрыкі „Спомаш", якая прадукуе машыны, абсталяванне і прылады для спажывецкай прамысловасці;

— разбудова і пераабсталяванне ткальні Васількоўскага прадпрыемства ваўнянай прамысловасці;

— самая буйная ў краіне цукраварня ў Лапах;

— парашкоўня малака ў Бельску Падляшскім;

— тэлефонныя станцыі для аўтаматычных спалучэнняў у Гайнаўцы, Саколцы і Моньках;

— цэнтр беластоцкай рэдакцыі Польскага Радыё, абсталяваны самай навейшай, у многіх выпадках нават прататыпнай электроннай тэхнікай.

У 1975 годзе налічыў я 42 новыя будоўлі. Але тут статыстыка далёка не поўная, бо ў гэтых дакументах не было для прыкладу адзначана, што:

— за вёскай Рыбалы ўзнікае зараз аграмадная птушкаферма, на якой ужо праз год будзе пастаўлена на адкорм звыш 2 мільёны куранят у год;

— у Тыневічах Вялікіх мясцовы сельскагаспадарчы каапэратыў разгарнуў пабудову жывёлагадоўчай фермы для некалькіх тысяч цялят;

— у Беластоку распачала прадукцыю суперсучасная фабрыка па вырабу самай складанай упакоўкі з пластмасы і іншых матэрыялаў.

Затое ў гэтых дакументах можна было прачытаць, што:

— на камбінаце па вырошчванню агародніны ў Ігнатках каля Беластока некалькі гектараў зямлі апынулася пад шклом;

— студэнты ў Беластоку атрымалі новы інтэрнат;

— пабудавана ў ваяводстве 6 гандлёвых павільёнаў, 4 пякарні, 2 масарні, 3 разлеўні газіраванай вады;

— праведзена меліярацыя амаль 17 тысяч гектараў лугоў і поля;

— збудавана звыш 17 тысяч новых месц для гадоўлі кароў і свіней.

Некаторыя з гэтых новых будоўляў удалося мне нядаўна наведаць. Пабываў я ў Рыбалах, у Тыневічах, Гайнаўцы, Бельску, Саколцы і Сямяцічах. Не, дакументы Ваяводскай камісіі па гаспадарчаму планаванню ў зман не ўводзяць. **Рукатворныя помнікі нашай супольнай працы ўжо назаўсёды застануцца ў пейзажы Беластоцкага ваяводства.** Ёсць іх сапраўды многа. Адны болей, а другія менш прыкметныя для людскога вока. Усе, аднак, разам сведчаць аб нашым рашучым і хуткім маршы ў будучыню.

**Віктар Рудчык**



*Новы Беласток.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 203

## СВЯТАЯ ГРЭШНАСЦЬ

(працяг)

6

*Дзе дотык рук*
*Дзе дотык губ*
*Малітва цела*
*Ці анёл я*
*Ці д'ябал я*
*Ці я мужчына*
*Ці мы бяду*
*Ці шчасце нас сустрэла*
*Ці нарадзіўся я*
*Ці мо навекі згінуў*
*Ці гэта праўда ўсё*
*Ці гэта толькі казка*
*Ці будзе вечна так*
*Ці будзе толькі хвільку*
*Ці твар сапраўдны*
*Ці мо толькі маску*
*Лёс паказаў нам*
*У дзівосным цырку*
*Ходзім уздоўж*
*І ўпоперак мы ходзім сёння*
*Ад ног да галавы*
*Акутаны ў мотак*
*І серабро ніцей*
*Аб чымсьці песню звоніць*
*Куды заве*
*У шчасце ці згіноту.*

7

*Калі няма сапраўднага кахання*
*Тады стварыў яго*
*Як твораць казку*
*Нам трэба радасна-балючай раны*
*Нам трэба фікцыі і маскі*
*Стары Бальзак*
*Жыццё нядрэнна ведаў*
*І твораў многа напісаў глыбокіх*
*І ўсе назваў жыццёваю камедыяй*
*Камедыяй людской і боскай*
*Законаў мабыць*
*Не адкрыем новых*
*Будзем іграць камедыю Дэль Артэ*
*Трымаю банк*
*Я да ігры гатовы*
*Фальшывыя прынеслі карты.*

8

*Пакінем на насенне*
*Зёрны нашых думак*
*Пакінем на квітненне*
*Першую надзею*
*Плыве ў сэрцы*
*Вечны струмень шуму*
*Шуміць у сэрцы вечная завея*
*Каханы*
*Значыць верыш*
*І не верыш значыць*
*Куды ідзеш*
*Дакладна невядома*
*Што будзе з намі*
*Пажывем — пабачым*
*Ці сонца прыдзе ў дом*
*Ці знікне з дому*
*Каб толькі цеплыня*
*Жыла у нас да скону*
*Каб толькі полымя сардэчнае*
*У жменях*
*Тады напэўна*
*Хопіць для загонаў*
*Насення цёплага*
*І цёплага квітнення.*

9

*З уласным „я"*
*У вечнай барацьбе*
*Каб твар яму змяніць*
*Удасканаліць*
*Каб там дзе была чэрнь*
*Завесці бель*
*Каб персанаж стаў*
*З пушкінскага балю*
*Хай ззяе ўсё*
*Хай свечыцца гарыць*
*Я ў свеце ўсім найпрыгажэйшы*
*Ніколі я не стануся старым*
*Мой стыль*
*Стыль пушкінскага верша*
*Пачаўся баль*
*Люстэркі на сцяне*
*Лягла рука на талію крутую*
*Глядзіць стары з люстэрка на мяне*
*Ён гэта я*
*О божа — пратэстую.*

**Алесь Барскі**

## Плач жывых

Мігатлівыя языкі
агню
трапечуцца на ветры
у гразь
ставалі каленьмі
у шуме ветру
плакаў нехта і голас дрыжаў
як аслаблая струна
навошта
роспач замыкаць у слова
жалобны марш нервуе
памерших.

**Кастусь Бандарук**

## ХВІЛІНА

Задрыжала хвіліна
На ніцях шчаслівасці
Снаваўся павук
Залацістa пераліваецца
У кроплях
Цёплых уздыхах
Шопатам
Ціхуткім, добрым
Насыціліся сцены
Высокіх стаўбоў
Паветра
Косы воблакаў
Дастойна плылі
Праз карону неба
Ва ўрачыстай
Ціцшыні
Растопленыя вочы
У тысячах сонцаў
Цэлага свету
Як мембрана
Зазвінеў пралятаючы
Праз не-свет
Самалёт
Палоска дыму
Памаленьку
Расплываецца
Далёка... далёка...
За рэчаіснасцю
За светам з паветра
І за шчасцем
Пачуўся вострый
Сігнал поезда
Па той
Старане рэчаіснасці

**Ірэна Баравік**

## МІНСК

*Праз многа год вандрую я ізноў*
*Па гулкіх плошчах, вуліцах знаёмых.*
*І сустракаю шмат сваіх сяброў,*
*І адчуваю тут сябе, як дома.*

*І шчыры, шчыры аддаю паклон*
*Я несмяротным Коласу, Купалу,*
*Што на дарозе працавітых дзён*
*Спыніліся спачыць на п'едэсталах.*

*Цудоўны Мінск! Хоць і прайшлі гады,*
*Хоць я цябе даўным-даўно не бачыў,*
*Ты, як і быў, астаўся малады,*
*Ты воблік свой захоўваеш юначы.*

*Таплю манету ў Свіслачы знарок,*
*Як сімвал, што сюды яшчэ вярнуся,*
*Што будзе зноўку вабіць, цешыць зрок*
*Сталіца светлазорнай Беларусі.*

**Віктар Швед**

**Ян Чыквін**

## З цыкла: задуменні

Душа за лета пачарствела.
Штосьці ў тым ёсць — чагосьці з тым
няма.
Папрыгажэла зноў зямля,
Як нованароджаны — па горадзе іду
няўмела я.

## Не пішы да мяне

Не пішы да мяне,
Не будзі маіх сноў,
Хай жывуць, як адбіткі-пячаці.
Мо цябе я тады
Так надзеяй крануў,
Што не можаш
маўчаць-замаўчаці?

Не мая ў тым віна,
Што ты сёння адна
Асталася ў смутках трывогі.
Як пражытыя дні,
Хоць гані-не гані,
Не дагоніш прабытай дарогі.

Хіба ведала ты,
Як паліла масты,
Што я зноў не пайду за табою?..
Мне таго не забыць,
Колькі буду я жыць,
Як стаяў я, зламаны тугою.

Толькі як з глыбіні
Голас мой гаманіў,
Прадчуваў, што адвернецца
карта.
Ты паслухай яго,
Просьбу сэрца майго,
Не пішы да мяне так упарта.

**Л. Танкевіч**

## БЕЗІМЯННЫ КШТАЛТ

Нэ можэм одобраты
свому сэрці
його волі,
которое пэрэсіяна
закіпае у думках.
Крыло нэпонятного прэдзначэння
— МЕТЕ НАС.
Мінулы літа
віесят попэрэрываны
як сніг на соснах.
ХОЧЭШ!...
Аж бушуе кров у аортах,
нэ так латво
вытягнуты лінію слуов
і гэстамі рук
пэрэобразіты
у образ
нэпокаляну чыстоту
з якейю родымось.
І крэслім очы
усмехом кровлі
а шорсткость тіела
вянэ як лісток
В задымяных зрэніцях
пропадае —
САМОСТОЙНОСЦЬ!
Выгінаем голосом повітрэ
в іншум рытмові?
Одкрываем
варству по варстві
нэздобуваемы колёр?
дрэшчы хвалёю протэкут по тіелі.
Розсунэцця голос
Як тафля воды
пуд дождждом
зламытся як іголка
Як по урвісках
кіпыт у грудёх
бэзімянны кшталт
нарастае бы далекі стукот поезда.
Нэ прымаем фактув
которы
створаны
поза намы.

**Іван Кірызюк**

* * *

Аб белых бярозах
сны мець будзеш
у рэштках успамін
разбудзіш
ранак
малога гарадка
нават імя
помніць не будзеш
сны пра бярозы
застылыя
душныя
усход захадам
зменіш
зблытаныя
косы бяроз
у снах
цалаваць
будзеш

**Вераніка Леанюк**

## Навальніца

*Камені бразгаюць*
*па бруку,*
*пасінелыя ад болю.*
*Іскры ўваскрэшаныя*
*бліскалі*
*ў цемнаце,*
*Цяжкі воз праехаўся*
*цераз вуліцу.*
*Мелодыя крылаў*
*арлоў*
*прабівала,*
*пранікала ўглыб...*
*Хтосьці іграў*
*на арганах*
*ці скрыпцы,*
*можа на гітары?*
*Біг-біт*
*У найвышэйшай форме...*
*Бліскалі зрэнкі*
*артыстаў.*

**Ніна Гаўрылюк**

## ЗА ЛЕТАМ

*апынісь*
*лета*
*чуеш*
*яшчэ травы зялёныя*
*і рэчка так шэпча*
*помніш*
*Афрадыта з пены*
*прыгожа спявала*
*а сама*
*уміраць толькі з ёю*

*помніш*
*яшчэ многа было*
*толькі кветкі забралі*
*буслы жураўліным*
*ключом замкнулі*
*лісце пісьмом*
*астатнім*
*вясковым*
*лета*
*ну яшчэ*
*сосны ў лесе*

**Зося Сачко**

* * *

ідзем
хто памалу
хто хутка
хто групай
а хто ў адзіночку
хто ўліваецца ў вір карагоду
хто вось так
напралом праз прыроду
хто глядзіць толькі на адышоўшых
топчам
бурым
узрываем
гуманізму плашч чорны на плечы
каб з сумленнем у спрэчках не быць
крычым
выдаем
заклікаем
хопіць
прэч
хай растуць
і за намі пустыні
сумны крык
папялішчы
барацьбы прадаўжэнне за быт

**М. Шаховіч**

# ГАЙНАЎКА ПЕРАД VII З'ЕЗДАМ

Ва ўсіх установах і на прадпрыемствах Гайнаўкі пануе працоўны ўздым. Выконваюцца і перавыконваюцца дзяржаўныя планы, прымаюцца абавязацельствы даць дадатковую прадукцыю.

Па ініцыятыве партыйнай арганізацыі шматгалінная спулдзельня працы тры разы ў бягучым годзе павышала свае абавязацельствы. І так, вартасць дадатковай прадукцыі ў 1975 годзе складае там суму 1 млн. злотых, а вартасць дадатковых паслуг 400 тыс. злотых.

Калектывы паасобных устаноў многае зрабілі, каб палепшыць арганізацыю працы, каб выклікаць у кожнага свайго працаўніка адказнасць за якасць сваёй працы, каб кожны працаваў з большымі эфектамі, з лепшымі вынікамі.

Гайнаўскі ВСС асабліва вялікую ўвагу звярнуў на культуру гандлю, на павышэнне якасці сваёй спецыфічнай прадукцыі, якою з'яўляецца штодзённае забеспячэнне людзей харчамі. У гонар VII З'езду ВСС звыш нормы даў прадукцыі на 700 тыс. злотых. Намагаецца ён таксама як мага хутчэй аддаць у агульнае карыстанне павільён „Дэлікатэсаў".

У Гайнаўцы адчуваецца, што яе жыхары разумеюць тую праўду, што шлях да яшчэ лепшых умоў нашага жыцця ляжыць праз нашу самаадданую працу. Асабліва відаць гэта сярод рабочага калектыву Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці. Прадпрыемства гэта прадукуе прыгожую і зручную мэблю, на якую ёсць вялікі попыт. Тут партыйная арганізацыя супольна з дырэкцыяй многае зрабіла, каб запэўніць высокую якасць прадукцыі. Ва ўсіх цэхах прадпрыемства былі прыняты абавязацельствы даць на рынак дадатковай прадукцыі на 8 млн. злотых. Абавязацельствы гэтыя паспяхова выканаліся, ды яшчэ ў гонар З'езду партыі былі прыняты дадатковыя, новыя абавязацельствы на 2 млн. злотых.

Свой патрыятызм і падтрымку партыі ў яе дзейнасці дэманструюць працоўнымі подзвігамі і іншыя прадпрыемствы і ўстановы Гайнаўкі. Грамадская праца жыхароў на карысць свайго горада акрэсліваецца тут сумай 10 млн. злотых, а дадатковая прадукцыя рабочага класа Гайнаўкі ў 1975 годзе складае суму 20 млн. злотых.

Партыйнае і адміністрацыйнае кіраўніцтва Гайнаўкі многа ўвагі ўдзяляе вонкаваму выгляду горада і будове парка ў цэнтры горада. Ужо зроблены там асфальтаваныя алейкі, пры якіх ёсць столікі і лаўкі, такія, як пры дарожных заездах, пасаджаны дрэвы, абсталявана прыгожае яго асвятленне.

Нядзеля, 16 лістапада, у Гайнаўцы была днём перадз'ездаўскага грамадскага пачыну, у якім прыняло ўдзел больш як 900 чалавек, у тым ліку 470 асоб моладзі. Працавалі яны ў парку, на многіх вуліцах, будуючы тратуары, маставыя і парадкуючы некаторыя аб'екты. Грамадскім чынам будавалі часовы вакзал ПКС-у, падрыхтоўвалі аўтобусныя стаянкі, пачакальню.

Гайнаўчане дастойна сустракаюць VII З'езд нашай партыі.

**Міхась Хмялеўскі**

# У МІХАЛОВЕ ПАЦЯЧЭ ВАДА З КРАНАЎ

Першыя два кіламетры водаправода пралажылі яшчэ ў 1972 г. Аднак не прайшло і тры гады, як высветлілася, што гэтага малавата. Вядома, жыхары, якіх Міхалова налічвае 2 200 асоб, таксама захацелі мець пад рукою цёплую і халодную ваду. Намнога ж лягчэй адкруціць кран, чым цягаць вёдрамі са студні. Ды не толькі гэта. Філіял БСМ-у распачаў тут пабудову жылых дамоў, якія таксама будуць патрабаваць гэтай жыццёдайнай вадкасці. У сувязі з тым гмінныя ўлады вырашылі пашырыць водаправодную сетку, пракладваючы яшчэ 13 км. Згодна з планам, галоўная лінія будзе праходзіць вуліцамі: Беластоцкай, Млыновай, Сянкевіча і Фабрычнай.

Працу распачалі ў гэтым годзе. 30 кастрычніка прыехала сюды трохасабовая група з беластоцкага прадпрыемства „Водраль" з брыгадзірам Юзэфам Клімюком. Менавіта гэту брыгаду, якая разраслася цяпер да сямі чалавек, застаем пры капанні раваў. Брыгадзір, на хвіліну адарваўшыся ад працы, пачынае даволі цікавы расказ. Праклалі ўжо каля 500 метраў водаправодных пластмасавых труб з дыяметрам 150 мм. Пракладваюць іх у равах глыбінёю 1,80 метраў. На дапамогу атрымалі землечарпалку, аднак пакуль што равы капаюць рукамі. Чаму? А менавіта таму, каб не даваць лішняй работы другім. Калі б капалі пры дапамозе землечарпалак, то трэба было б зрываць тратуары, а так мінаюць іх бокам. Але гэта толькі на адной вуліцы. Каб хутчэй ішла работа і заадно зменшыць кошты — не капаюць іх цягам, а робяць праз кожныя некалькі метраў падкопы, у якія ўсоўваюць трубы.

— Найважнейшае, што добры грунт, што няма гліны. Ну і тое, што не адчуваем недахопу ў матэрыяле, — гаворыць брыгадзір. — Намнога хутчэй усё пойдзе, калі прыедзе другая брыгада з тэхнічным абсталяваннем. Тады, калі ўсё будзе добра, то да канца гэтага года можна будзе зрабіць аж 5 км. Думаю, што дзесьці праз паўтара года ўсё будзе гатовае.

Калі закончаць галоўную лінію, пачнуць падключаць ваду да памяшканняў. Ахвотных ёсць. Апрача таго, на вуліцах Міхалова будзе каля 50 гідрантаў. А адкуль жа будуць браць ваду? З гэтым клопатаў няма. Уся сетка будзе падключана да 4 глыбінных калодзежаў.

Рабочыя, што тут працуюць, жывуць на прыватных кватэрах, за якія плоціць прадпрыемства. Апрача таго, уладзілі ім у мясцовым рэстаране абеды з 50-працэнтнай зніжкай. Вяртаючыся да водаправода, трэба адзначыць, што з'яўляецца ён апорай для каналізацыі, над якой гмінныя ўлады ўжо думаюць і да пабудовы якой прыступяць адразу пасля заканчэння распачатага. (ша)

# ВОСЬ ДЗЕ ГАСПАДАРЫ!

У Чыжыках! Прыгожыя драўляныя вароты. Уваходзім. Брукаваная дарожка, што калідорам пралягла паміж гаспадарчымі будынкамі, вядзе аж да самага гумна, адкуль да вушэй далятае шум млынка для чысткі зерня. Гаспадароў — Нікіфара Бурачыка і яго зяця Янку Нічыпарука застаем пры працы. Матор замаўкае, уступаючы месца размове, з якой даведваемся многа цікавага.

Жывуць яны ў адной хаце і апрацоўваюць дваццацічатырохгектаравую гаспадарку. Іх спецыялізацыя — вырошчванне ўсяго, што толькі можна вырасціць на зямлі ў гэтых кліматычных умовах. Працуюць так, каб было добра і сабе і дзяржаве.

— У нас усё кантрактаванае, — гавораць на падмацоўку нашай думкі.

І сапраўды. Пачнем ад канюшыны, пры чыстцы якой засталі мы гаспадароў. У гэтым годзе пад пасеў было прызначана 3,5 гектара, з чаго 1,5 га засеялі з думкай аб зерні. Урадзіла добра. Намалацілі звыш 5 цэнтнераў. Карысць, беручы пад увагу тое, што кілаграм каштуе 60 злотых, вялікая. Астатнія 2 га сеялі на корм. Трэба адразу адзначыць, што гадуюць 7 дойных кароў, якія даюць 70-80 літраў малака ў дзень.

— Гэта як быццам бы крыніца нашага новага напрамку, — гаворыць Н. Бурачык. А апора для жывёлагадоўлі ёсць. Маюць жа 4 га лугоў, з чаго частку выдзяляюць на пашу, а з апошняга (не ўлічваючы таго, што на сена) робяць травяны сілас. Апрача таго, садзяць вялікую колькасць буракоў. Маюць таксама электрычную даілку. Засталося толькі разбудаваць (над чым думаюць) кароўнік, і можна ўжо тады будзе павялічваць гадоўлю. А пакуль што тую лішнюю частку кармоў, каб не марнавалася, прадаюць кіраўніцтву Белавежскага парка на спажыву зубрам. У мінулым годзе адправілі туды аж 20 тон буракоў і 12 тон сена.

Вернемся аднак да кантрактацыі. На першым месцы стаіць збожжа і рапс. З 7 га (бо на столькі быў падпісаны дагавор) аж 4 прызначылі пад пасеў пшаніцы. Ураджай быў высокі. Аб гэтым сведчаць тыя 25 тон збожжа, якія ў мінулым годзе здалі дзяржаве. Рапс таксама не адстае. На 1976 г. законтрактавалі яго роўна 7 га.

Апрача таго, кожны год падпісваюць дагавор з насеннай базай на 0,5—1 га „балотнай вікліны" (разнавіднасць травы).

Неабходна звярнуць яшчэ ўвагу на дзве рэчы. Першае — гэта тое, што ўжо чатыры гады супрацоўнічаюць нашыя гаспадары з сельскагаспадарчым доследным прадпрыемствам у Шэпятове, адкуль атрымоўваюць насенне, а другое — што Бурачык аж трыццаць год з'яўляецца канярводам.

— Для мяне коні — гэта тое, што рыбаку вуда, — гаворыць ён.

Ну, пэўна, кожны мае свае зацікаўленні. Гаспадарка, як відаць, вялікая. Працы — таксама шмат. Аднак многа дапамагаюць машыны, якіх тут цэлы камплект. Адным словам, усе, якія можна прычапіць да трактара. Многія, пэўна, падумаюць, што на адпачынак то тут ужо і часу не хапае. Не, няпраўда. Час ёсць! Ды не толькі на адпачынак, але і на грамадскую дзейнасць, за якую Нікіфар Бурачык атрымаў рад узнагарод і дыпломаў. Якія ж плады ўсёй гэтай працы? А гэта якраз не што іншае, як той прыгожы дом, як тыя гаспадарчыя будынкі, як уласны матацыкл, ну, і „Фіят".

**М.Ш.**



*Перадавы гаспадар Нікіфар Бурачык з Чыжыкаў (гміна Гайнаўка).*

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXXIII**

**Драматургія.** Разгледзім апошні драматычны твор Гаруна. Твор гэты мае падвойны загаловак. Першы з гэтых двух загалоўкаў — „Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць" — гэта як бы свабодная травестацыя вядомай біблейскай пагаворкі. Другі — „Дзіўны лапаць". Несумненна, першы загаловак трэба аднесці да няўданых. Сваю кнігу, як мы ўжо сказалі, Гарун накіроўваў у адрас дзяцей. Відаць гэта і са зместу п'есы, і з прадмовы. Значыць, усё ў гэтай кнізе павінна быць ясным, зразумелым і камунікатыўным. На жаль, такім патрабаванням не адпавядае загаловак „Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць". Загаловак і задоўгі, і занадта іншасказальны. Затое, на нашу думку, дасканалым з'яўляецца загаловак „Дзіўны лапаць", і таму ў далейшых разважаннях будзем ужываць толькі гэтую назву. Чаму „Дзіўны лапаць" з'яўляецца добрым загалоўкам? Па-першае, ён інтрыгуючы. Па-другое, ён кароткі. Па-трэцяе, ён зразумелы. П'еса „Дзіўны лапаць" складаецца толькі з аднаго акту. Выступае ў ёй невялікая колькасць герояў. Пастушок, двое зладзеяў — Шымановіч і Галяковіч і... бадай што галоўны герой — лыкавы лапаць.

Змест п'есы можна звесці да наступных падзей. Пастушок ідзе за сваёй чарадой, наракаючы на горкі лёс. На дарозе знаходзіць ён стары лапаць. Пазабаўляўшыся знаходкай, пастух хоча яе кінуць. Але лапаць пачынае гаварыць чалавечым голасам. Пасля кароткай спрэчкі Пастушок і Дзіўны лапаць пастанаўляюць разам дзейнічаць і жыць у згодзе.

У другой карціне бачым двух зладзеяў, якія ўкралі ў царкве каштоўныя прадметы і ў селяніна — саланіну. Зладзеі дамаўляюцца адносна кражы ў мясцовым маёнтку коней.

У трэцяй карціне выступаюць тыя ж самыя зладзеі і знаёмы ўжо нам пастушок. Зладзеі стараюцца даведацца аб спецыфіцы дворскіх парадкаў, каб такім чынам лягчэй было ім украсці коней. Хлапчук, чуючы голас Дзіўнага лапця, выкрывае зладзеяў.

У чацвертай карціне бачым, як спалоханыя зладзеі кідаюць мяшкі з награбленым дабром і як мага ўцякаюць. Хлапец, застаўшыся адзін, бярэцца за зладзейскія клункі і гамоніць з Дзіўным лапцем.

І так, дзякуючы чарадзейскаму Дзіўнаму лапцю зло пакарана.

У п'есе эскізна паказаны грамадскі і палітычны фон жыцця беларуса. Толькі прыблізна можам акрэсліць час, у якім адбываюцца прадстаўленыя ў творы падзеі. Мабыць, маем тут дачыненне з перыядам пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. У п'есе гаворыцца аб пабегу пана з маёнтка, аб тым, што рабочыя з маёнтка ўзялі ўладу ў свае рукі, што маёнткам кіруе камітэт і камісар. Усё гэта належыць да рэалістычнай праслойкі ў творы. Да рэалістычных трэба аднесці таксама апісанні жыцця пастушка і характарыстыкі двух зладзеяў. Адзіны чарадзейскі аспект твора звязаны з Дзіўным лапцем. Гэты „персанаж" можам звязваць з фальклорам, але з пэўнай агаворкай. Як вядома, у беларускім казачным фальклоры выступае вельмі многа цудадзейных прадметаў: гуслі-самаграі, боты-скараходы, шапкі-нявідкі, лётаючыя кілімы, але нам асабіста невядомы ўвогуле тэкст, у якім выступаў бы чарадзейны лапаць. Значыць, Гарун выкарыстаў фальклорную ідэю незвычайных прадметаў, але ў сваім творы прадставіў яе ў вельмі арыгінальнай форме.

Твор „Дзіўны лапаць" адзначаецца сцэнічнасцю, лёгкімі дыялагамі, прастатой канструкцыі. Нават у найбольш скромных вясковых умовах лёгка яго паказаць на сцэне.

Што яшчэ можна сказаць аб прадстаўленых п'есах Гаруна? Ва ўсіх гэтых творах, у большай або меншай ступені маем дачыненне з маралізатарскім дыдактычным элементам. І гэта зразумела, калі ўжо маем дачыненне з творамі, прызначанымі для дзяцей. Аднак, дыдактызм Гаруна ўмела схаваны ў тэксце, ніколі не праяўляецца ён у голай дэкларатыўнай форме. Галоўная ідэя п'ес Гаруна — барацьба дабра са злом, барацьба альтруізму з эгаізмам і канчатковая перамога дабра і альтруізму, — служыла канкрэтным выхаваўчым мэтам.

Можам гаварыць аб Гаруне — наватары ў драматургічным жанры. Справа ў тым, што ў тых гадах, калі ён пісаў свае п'есы, па сутнасці не было беларускага дзіцячага рэпертуару. Такім чынам, Гарун быў адным з першых беларускіх пісьменнікаў, якія падумалі аб тэатры, у якім гледачамі і героямі будуць дзеці.

# РАШУЧАСЦЬ

Мікола разгладзіў гальштук, глынуў вады, стараючыся стрымаць тугія ўдары сэрца, пачаў:

— Таварышы! Папярэднія выступленні казалі аб нашых поспехах, а я вось скажу аб нашых недахопах, бо як сумленны член калектыву маўчаць далей не хачу, ды і не маю права на гэта...

Кінуўшы позірк на паперку з выпісанымі загадзя лічбамі, Мікола працягваў:

— Добра, што гадавы план па продажу дзяржаве малака і мяса мы выканалі на 101 працэнт, добра што мы павысілі ўраддівасць нашых палёў. Толькі паказчыкі маглі б быць вышэйшымі, каб сёй-той з нашага, у цэлым добрага калектыву не шкодзіў агульнай справе... Я маю на ўвазе цябе, Іван. Хоць ты і лічышся маім сябрам, але сцебану прама ў вочы, каб памятаў аж да новых венікаў! Заяўляю адкрыта перад усім сходам: такому п'яніцу і лайдаку, як ты, не месца ў нашым дружным і працавітым калектыве...

Мікола на момант прыпыніўся, быццам чакаючы пакуль у зале сціхне шум. А потым ускінуў угору руку:

— Супакойцеся, супакойцеся, таварышы, я яшчэ не скончыў.

— Вядома, што Іван не змог бы дакаціцца да такога жыцця, каб сёй-той з начальства не патураў яму ў гэтым. Ды што тут мусоліць доўга, — павярнуўся прамоўца ў той бок, дзе сядзіць старшыня. — Нават вы, Кузьма Сцяпанавіч, і то не праводзіце з абібокамі выхаваўчай работы. Як кіраўніку, гэта не робіць вам гонару...

Нарэшце, прапісочыўшы як след і п'яніц, і кіраўнікоў, Мікола пачаў закругляцца:

— Таварышы, нам трэба больш прынцыпова ставіцца да сябе, смела выкарчоўваць зло, якое сям-там мае яшчэ месца ў нашым калектыве. Са свайго боку я абяцаю і ў будучым, як і цяпер, быць такім жа непрымірымым да недахопаў.

Скончыўшы, Мікола згроб у кучу паперкі з прамовай. Выцер хусцінкай успацелы лоб і сам сабе паспачуваў:

— А каб цябе! Бач як расхваляваўся на гэтай рэпетыцыі. А што ж будзе, калі вось гэтак выступіць заўтра на сходзе? А можа, таксама таго... расказаць аб поспехах? Аб недахопах як-небудзь іншым разам... Так і зробім, — рашыў нарэшце Мікола і кінуў прыгатаваны тэкст прамовы ў смеціцу...

**Пятро Рабянок**



# НІЎКА



## ЗНАХОДКА

*Пляліся ў знямозе*
*Змітрок і Пятрок.*
*Глядзяць — на дарозе*
*Ляжыць кашалёк.*

*— Цур, мой! — і хапае*
*Знаходку Змітрок.*
*— Не, мой! — не ўступае*
*Упарты Пятрок.*

*Адзін у другога*
*Знаходку трэцуць,*
*Адзін на другога*
*Крычаць і равуць.*

*На часткі парваўся*
*Тугі кашалёк,*
*А ў ім аказаўся...*
*Звычайны пясок.*

**Р. Хацкевіч**

### ВІСЯЧАЯ РАБОТА

— Мала рухаецеся, — гаворыць урач пацыенту. — Відаць, работа ў вас сядзячая...

— Вісячая, — адказаў пацыент. — Цэлымі днямі вішу на тэлефоне.

### ЗДАГАДЛІВЫ ХЛОПЧЫК

— Мама, а я ведаю, чаму падкоўваюць каня.

— Чаму, сынок?

— Каб ногі ў яго не мерзлі.

ГУМАР З

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

— Андрэй, ану перахрысціся!..

— У імя... сына і ду...ха...

— А дзе айцец, шыбеніку?

— Хіба вы не ведаеце? Паехаў у Бельск на кірмаш.

### НЕ ЎСЕ

Жонка: — Няўжо ты прапіў усе грошы?

Муж: — Чаму ж усе?! Рэшта пайшла на закусь.

### ПАЧЫНАЮЧЫ

Міліцыянер не верыць вачам: проста па тратуары едзе машына, дарэчы, даволі марудна. Ён падыходзіць да вадзіцеля:

— Што вы робіце?

— Я толькі што атрымаў правы і яшчэ вельмі баюся сустрэчных машын! — адказвае збянтэжаны вадзіцель.



...Была глухою цяцёркаю, а крык моды чула цераз акіян.

...Усю ноч не спаў. Думаў: „Чаму так ціха за сценкай?!"

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Гэлі Данельчук з Заблудава, Валі Жылюк, Тосі Палавянюк, Лены і Гені Артэмюк, Ані Асеннік з Парцава змяшчаем песню

## CHŁOPCY Z WESELSZYCH LAT

**słowa: Jacek Korczakowski**
**muzyka: Adam Skorupka**
**śpiewa: Irena Jarocka**

Chłopcy z weselszych lat,
Chłopcy z rodzinnych stron
Czy wybaczycie to,
Że wam uciekłam w świat?

Byłam bardzo daleko,
w obcym świecie za górą, rzeką
Gdzie ma wszystko swą cenę —
Kwiaty na scenę,
Uśmiech i łza...

Ludzie są, jacy są,
Stać ich na to, co stać —
Chłopcy z rodzinnych stron,
Z wami to konie kraść!

Ech, pójść z wami raz jeszcze
Na wagary, w kwiaty i świerszcze —
Grać w zielone i w jasne
I mieć na własność
Cały ten dzień...

Chłopcy z weselszych lat,
Który z was kochał mnie?
Chłopcy z weselszych lat —
Z kim on dziś jest i gdzie?

Ech, pójść z wami raz jeszcze
Na wagary, w kwiaty i świerszcze,
Grać w zielone i w jasne
I mieć na własność
Choć jeden dzień...

W sercu mieć tamten śmiech,
Radość zebraną z łąk,
A na obronę,
Na godzinę złą
Serce mieć i dłonie
Chłopców z mych rodzinnych stron...

### УЗАЕМНАСЦЬ

Габравец атрымаў ад аднаго свайго сябра, вялікага жартаўніка, пісьмо, на якім не было маркі. У ім паведамлялася:

„Дарагі сябар, я цяпер на экскурсіі ў габрах, таму не змог прыляпіць марку да пісьма. У мяне ўсё ў парадку. Твой Іван".

Габравец у адказ паслаў свайму сябру пасылку накладной платай. У пасылцы ляжаў вялікі камень з запіскай:

„Я настолькі кранут̆ы тваёй павагай да мяне, што вось гэты камень адарваўся ад майго сэрца. Пасылаю яго табе накладной платай, таму што ўсе свае грошы прыйшлося аддаць за тваё даплатное пісьмо. Стаян".



ГАДЗІННІК ЛОДАРА.

### ЭВАЛЮЦЫЯ

У першыя дні знаёмства хлопец, ідучы вуліцай, папярэджваў дзяўчыну:

— Уважна ножкамі ступай, бо тут каменьчыкі.

А праз нейкі час пасля вяселля:

— Ды глядзі пад ногі — тут жа камяні.

І ўжо праз некалькі месяцаў сямейнага жыцця:

— Куды цябе нясе?! Што, каменняў не бачыш?!

### НА СУДЗЕ

— І так, калі справа дайшла да сутыкнення, у вашага працаўніка ў руках была палка. А што было ў вас у руках?

— Яго жонка.

## КУРЁЗЫ

### ДАРАГАЯ АПЕРАЦЫЯ

Муніцыпалітэт італьянскай сталіцы прыняў рашэнне пачаць „вайну" супраць наступаючага на горад новага каварнага ворага. Агульны кошт будучай аперацыі ацэньваецца ў 896 мільёнаў лір. Аднак гэтыя падрыхтаванні робяцца не для таго, каб адбіць нашэсце варвараў, як гэта не раз было ў мінулым, а для вядзення „баёў" з... пацукамі.

Паводле ацэнкі газеты „Кар'ерэ Дэла Сера", цяпер горад „атакуе" каля 20 мільёнаў пацукоў.

### ДЫМ У АТЭЛІ „ЕЎРОПА"

„Тысячы фунтаў стэрлінгаў улятучылася, як дым, у лонданскім атэлі „Еўропа" — напісаў адзін англійскі рэпарцёр, каменціруючы вынікі праўшоўшага тут „чацвёртага чэмпіяната свету па... курэнню люлек". Кожнаму з 240 удзельнікаў, якія прыбылі з васьмі заходнееўрапейскіх краін, а таксама Японіі і Аўстраліі, была прадстаўлена стандартная англійская люлька тыпу „брайяр", тры грамы тытуню і дзве запалкі. Задача: не дабаўляючы тытуню, падтрымліваць у люльцы агонь як мага даўжэй.

Пераможцам аказаўся італьянец Вірыс Вечы, які „пратрымаўся" дзве гадзіны трыццаць восем мінут чатырнаццаць секунд.

### ЯК ВЫДУМАЦЬ АФАРЫЗМЫ

Адна дама спытала Бернарда Шоу, як яму ўдаецца прыдумваць такія дасціпныя афарызмы.

— Вельмі проста! — адказаў пісьменнік. — Я думаю аб чым-небудзь дурным і тут жа гавару процілеглае.




Калі ўсе выйдуць у людзі, хто ж тады будзе працаваць?